

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны

№ 5 (травень), 2014

# Мяжа




**Пікет у абарону правоў дзяцей прайшоў у Берасці**

(старонка 11)

## ЗЬМЕСТ

## Уладзімір Вялічкін: Суд ухіліўся ад разгляду справы



Усяго тры хвіліны спатрэбілася суддзі Берасцейскага абласнога суда Андрэю Алешчанку, каб падцвердзіць рашэнне суда ніжэйшай інстанцыі ў справе Міколы Чарнавуса. Абвешчана пастанова - гэтая справа суду непадведамасная. А справа ў тым, што экс-кандыдат у абласны савет дэпутатаў Мікола Чарнавус лічыць, што старшыня акруговай камісіі №21 Ларыса Антонава мусіць панесці пакаранне, бо не дазволіла яму выступіць перад выбаршчыкамі праз радыёкропку:

- Гэта несправядліва. Ён проста не хоча напружваць Баранавіцкі суд. Ён мог бы вярнуць справу на перагляд. Я ведаю, што як першая інстанцыя вырашыла, так другая і падтрымае. Суда ў нас няма.

Адназначна, канстытуцыйныя правы Чарнавуса парушаныя, кажа праваабаронца з Берасця Уладзімір Вялічкін:

- Канстытуцыя гарантуе грамадзянам Рэспублікі Беларусь права звяртацца ў суд і быць абароненымі ў судзе. Таму я лічу, што такі адказ надуманы. Рашэнне гэтага суда мае на мэце толькі адно – ўхіліцца ад разгляду справы і нічога болей.

Мікола Чарнавус мае намер дамагацца справядлівасці ў вышэйшых судовых інстанцыях, а таксама ў Камітэце па правах чалавека ААН, калі не знойдзе абароны сваіх правоў у Беларусі.

http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=24103#.U2fkInIvAlV

## Рабочым «Граніту» зрэзалі даплату за працу на святы

Супрацоўнікаў РУВП «Граніт» пазбавілі яшчэ адной прэферэнцыі.

Пра гэта сайту charter97.org паведаміў прафсаюзны актывіст Алег Стахаевіч.

«У святочныя дні ў канцы красавіка і пачатку траўня гранітаўцы працавалі з аплатай працы ў двухразовым памеры, хоць да гэтага ў святочны дзень яны атрымлівалі дзённы заробак у чатырохразовым

памеры», - адзначыў ён.

Прафсаюзны актывіст дадаў, што гэта не першы за апошні час выпадак уразання прэферэнцый.

«Мінулай вясной зменшаныя даплаты за шкодныя ўмовы працы і знятая надбаўка да адпачынку, якая складаецца з сямі дзён. Таксама гранітаўцам перасталі аплачваць прастоі па віне наймальніка, у прыватнасці кіроўцам БелАЗа на тэхналагічнай лініі. Да таго ж забралі 30 хвілін з 12-гадзіннай рабочай змены, што таксама адбілася на прыбытках. А цяпер аплата святочных змен зніжаная ў два разы», - канстатаваў Алег Стахаевіч.

Нагадаем, у канцы 2011 года некалькі соцень работнікаў прадпрыемства па здабычы будаўнічага каменю «Граніт» у Мікашэвічах напісалі заявы аб выхадзе з афіцыйнага прафсаюзу. Рабочыя абвясцілі, што ствараюць на прадпрыемстве Беларускі незалежны прафсаюз. У выніку ўсе сябры БНП, у тым ліку і яго кіраўнік Алег Стахаевіч, былі звольненыя з прадпрыемства.

http://charter97.org/be/news/2014/5/5/97391/

## У Берасці павысяць інфармаванасць пра правы чалавека ў Беларусі

Павышаць інфармаванасць людзей пра сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі хочуць у Берасці. Тут прадстаўніцтва рэспубліканскага грамадскага правааабарочнага аб’яднання Беларускі Хельсінкскі Камітэт пачынаюць кампанію, якая ўключае інфармацыйную, прававую і адукацыйныя складнікі, - распавёў каардынатар БХК у Берасці Ігар Маслоўскі.

- Згодна з артыкулам 34 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, грамадзянам гарантуецца права на атрыманне і распаўсюд поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі, у тым ліку, і пра правы чалавека. Таму большую частку нашага мерапрыемства мы плануем прысвяціць інфармацыйнаму накірунку.

“Мы маем намер шчыльна супрацоўнічаць з незалежнымі СМІ, выкарыстоўваць Інтэрнэт-рэсурсы, выдаваць бюлетэнь “Брэсцкае права””, - дадаў Ігар Маслоўскі.

http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=24072#.U2Z00nIvBaU

## Брэсцкі праваабаронца патрабуе змяніць закон аб масавых мерапрыемствах

Зварот у Савет міністраў Дзмітрый Рабцэвіч накіраваў 7 траўня.

Ён прапануе вывесці з дзеяння адпаведнага закону адзіночныя пікеты, якія масавымі мерапрыемствамі не з'яўляюцца паводле вызначэння.

Заканадаўчую ініцыятыву пракаментаваў для Еўрарадыё паплечнік Рабцэвіча праваабаронца Раман Кісляк. Па яго словах, большасць з абмежаванняў закона аб масавых мерапрыемствах актуальныя для акцыяў з вялікай колькасцю людзей. А ўводзіць іх для адзіночных акцый не мае сэнсу.

Кісляк: "У суседніх краінах гэтыя акцыі не рэгламентуюцца такім заканадаўствам: людзі могуць спакойна выходзіць, пратэставаць, выказваць сваё меркаванне. Якая розніца — стаіць чалавек з плакатам ці без? Ён нікому не перашкаджае і ніякай небяспекі для грамадства не ўяўляе".

Як паведамляла Еўрарадыё, 28 сакавіка Дзмітрыя Рабцэвіча затрымалі ля будынка Брэсцкай абласной пракуратуры. Праваабаронца ладзіў адзіночны пікет супраць хуткага выканання смяротнага прысуду ў Беларусі. Усяго праз 10 хвілін яго затрымалі міліцыянты, але вызвалілі з пастарунку ў той жа вечар без пратаколу. Аднак праз некалькі дзён пратакол усё ж такі склалі: Рабцэвіча абвінавацілі акурат ва ўдзеле ў масавым мерапрыемстве.

http://euroradio.fm/brescki-pravaabaronca-patrabue-zmyanic-zakon-ab-masavyh-merapryemstvah

## Беларускія праваабаронцы: У нас застаецца 8 палітвязняў

Восем палітычных вязняў – гэта статыстыка ад беларускіх праваабаронцаў. Між іншымі, за кратамі знаходзяцца экс-кандыдат у прэзідэнты Мікола Статкевіч і лідар праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі.

Маці палітычнага вязня Ігара Аліневіча Валянціна Аліневіч якраз атрымала ліст ад сына. У ім вязень віншуе сваіх бабулю з дзядулем з Днём Перамогі:

- Ён піша: "Хачу бабулю і дзядулю павіншаваць з 9 мая. Калі хтосьці і варты віншаванняў у гэты дзень, то гэта яны, якія прайшлі ўсе жахі вайны і разумеюць, што такое перамога. Дзякуючы іх ваенным аповедам, я многае ў жыцці зразумеў і абраў свой шлях".

Вячаслаў Дашкевіч, бацька былога палітычнага вязня, аднаго з лідараў «Маладога Фронту» Змітра Дашкевіча, кажа, што захапляецца мужнасцю хлопцаў, якія церпяць пераслед за сваю палітычную і грамадзянскую пазіцыю:

- Я не ведаю, хто можа вытрымаць такое. Калі казаць пра мяне, то я не ведаю, што зрабіў бы, хутчэй здох бы, чым здолеў такое вытрымаць. Гэта здзек, здзек, здзек… Людзей хочуць растаптаць, прынізіць, зняважыць, даказаць ім, што яны ніхто, што калі трапілі туды, то яны ворагі. З самага верху такія рэчы ідуць. Баіцца наша ўлада праўды.

Нядаўна міжнародная Федэрацыя за Правы Чалавека і Праваабарончы цэнтр «Вясна» прадставілі аналіз сітуацыі з палітычнымі вязнямі. Гэтую сітуацыю яны назвалі «крытычнай».

## Берасцейская міліцыя зацікавілася святкаваннем Дня працоўных - 1 траўня

Прадстаўнікі праваахоўных органаў склалі пратакол апытання на старшыню Берасцейскай абласной арганізацыі Беларускай Сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Ігара Маслоўскага.

Міліцыя папрасіла тлумачэнні адносна правядзення інфармацыйнай кампаніі і віншавання берасцейцаў, - пра гэта распавёў палітык:

- Я патлумачыў, што мы дзейнічалі ў рамках заканадаўства, у рамках беларускай Канстытуцыі, што мы адзначалі 1-ае Траўня, гэта ў Беларусі дзяржаўнае свята, гэта Міжнародны дзень салідарнасці працоўных у барацьбе за свае правы. А мы распаўсюджвалі віншаванні, што не забаронена заканадаўствам і распаўсюджвалі нашы бюлетэні.

«Мы дзейнічалі ў адпаведнасці з беларускім заканадаўствам і нічога не парушалі, таму такую сітуацыю можна лічыць даволі дзіўнай», - падвёў рысу актывіст.

http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=24293#.U3JGb3IvAlU

## На Берасцейшчыне аднавілася “Берасцейскае права”

“Берасцейскае права” – выпуск бюлетэня пад такой назвай аднавіўся на Берасцешчыне. Аўтары выдання – прадстаўнікі праваабарончай арганізацыі Беларускі Хельсінскі камітэт. "Бюлетэнь плануецца выдаваць раз на месяц і распаўсюджваць сярод жыхароў гораду," - пра гэта распавёў каардынатар БХК па Берасцейшчыне Ігар Маслоўскі:

- Асноўная тэматыка – гэта правы чалавека, парушэнні правой чалавека. Змест бюлетэня будзе ў асноўным грунтавацца на мясцовым матэрыяле, ёсць спецыяльны раздзел – гэта маніторынг парушэння правоў чалавека.

"Мы таксама завялі старонку ў сацыяльных сетках, дзе будзе змяшчацца інфармацыя аб сітуацыі з парушэннем правоў чалавека ў Берасцейскім рэгіёне," - дадаў праваабаронца.

http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=24392#.U3cZhXIvAlV

## У Берасці затрыманы незалежны журналіст Яўген Скрабец

17 траўня ў Берасці непадалёк свайго дома быў затрыманы АМАПам незалежны журналіст Яўген Скрабец. “Зараз знаходжуся ў Ленінскім РАУСе Берасця, шыюць хуліганства”, - напісаў Скрабец ў смс паведамленні для Радыё Рацыя. Яго тэлефон зараз не адказвае.

17 траўня таксама атрымаў заказным лістом пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні іншы незалежны журналіст Андрэй Мялешка, яму ставіцца ў віну супраца з Радыё Рацыя без акрэдытацыі

* * *

У красавіку незалежнага журналіста з Берасця Яўгена Скрабца выклікалі ў міліцыю. Як распавёў сам журналіст, яго выклікалі дзеля апытання, нібыта ён падобны да ўдзельніка бойкі, якая здарылася ў горадзе 16 лютага:

- Потым ужо пытанні плаўна перараслі да такіх, кшталту калі я апошні раз быў ва Украіне, адкуль у мяне фота ў “Кантакце” з Майдана. Наконт радыё пыталі, ці супрацоўнічаю я стала і г.д. Мне падаецца, што ўсё гэта было на ўсялякі выпадак, каб я не паехаў на

"Чарнобыльскі шлях" выконваць свае прафесійныя абавязкі.

Яўген Скрабец гэты выклік у міліцыю звязвае з менскай акцыяй "Чарнобыльскі шлях". Прыгадаем, што 31-га сакавіка журналіст атрымаў папярэджанне за супрацу з Беларускім Радыё Рацыя.

У прыватнасці, пракурор папярэдзіў яго пра недапушчальнасць працы на замежныя СМІ без акрэдытацыі. Цяперашні выклік маладзён звязвае з "Чарнобыльскім шляхам".

* * *

Незалежнага журналіста з Берасця Яўгена Скрабца выклікаюць у міліцыю. Ён мусіць з'явіцца ў аддзяленне міліцыі дзеля апытання. Так пазначана ў позве, якую журналісту прынеслі дадому двое міліцыянтаў, адзін з якіх прадставіўся ўчастковым.

Маладзён здзіўлены гэтым фактам, бо ён толькі два дні як пераехаў на новую здымную кватэру, і пра гэта ведалі толькі самыя блізкія асобы:

- Уручылі позву, што мне трэба з'явіцца для апытання 26-га красавіка а 15-й гадзіне. Я спытаў ці гэта з-за "Чарнобыльскага шляху"? На што мне адказалі: "А гэта вас хіба спыніць? Проста хочам вас пабачыць." Ніякіх больш дзеянняў, толькі аддалі гэтую позву.

Прыгадаем, што 31-га сакавіка Яўген Скрабец атрымаў папярэджанне за супрацу з Беларускім Радыё Рацыя. У прыватнасці, пракурор папярэдзіў яго пра недапушчальнасць працы на замежныя СМІ без акрэдытацыі. Цяперашні выклік маладзён звязвае з Чарнобыльскім шляхам.

http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=23878#.U3ezvnIvAlW

## Яўгена Скрабца асудзілі на 10 сутак арышту

Берасцейскі суд пакараў журналіста Яўгена Скрабца 10 суткамі адміністрацыйнага арышту.

Першапачаткова паведамлялася, што суд адтэрміноўваецца да 21 траўня, аднак журналіста не выпусцілі з Ленінскага РУУС і неадкладна асудзілі, пра гэта паведаміў праваабаронца Раман Кісляк:

- З майго пункту гледжання, як эксперта – гэтая адміністрацыйная справа адназначна сфальсіфікавана з мэтай інтэрнавання Яўгена Скрабца ў месцы пазбаўлення волі для таго, каб ён не змог



прысутнічаць на магчымых акцыях падчас чэмпіянату свету. Насамрэч адназначна адвольнае затрыманне і канешне мы, як праваабарончыя арганізацыі, будзем рэагаваць на такія факты.

Яўген Скрабец быў затрыманы ў суботу і выходныя правёў у ізалятары часовага ўтрымання. Ён патрабаваў адваката і не прызнаваў сваёй віны, аднак суд не прыслухаўся да яго аргументацыі.

http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=23878#.U3ukGHIvAlV

## Брэсцкі абласны суд не задаволіў скаргу незалежнага журналіста

Яўген Скрабец спрабаваў абскардзіць свой прысуд на 10 сутак арышту, якія ён правёў за кратамі падчас чэмпіянату свету па хакеі.

17 траўня маладога чалавека затрымалі ў Брэсце людзі ў цывільным. Яны заявілі, быццам ён падобны да нейкага злачынца. Для высвятлення асобы журналіста прывезлі ў Ленінскі РУУС. Ужо адтуль ён паведаміў праваабаронцам, што на яго складаюць адміністрацыйны пратакол за "лаянку матам у грамадскім месцы". 19 траўня суд Ленінскага раёна Брэста прызнаў Скрабца вінаватым і



прысудзіў да адміністрацыйнага арышту.

На волю Яўген Скрабец выйшаў 27 траўня. Ужо падчас адбыцця пакарання ён накіраваў заяву ў абласны суд. Хлопец патрабаваў перагляду справы, бо сваё затрыманне лічыць "прэвентыўным", а паказанні сведкаў — ілжывымі.

29 траўня суддзя абласнога суда пастанавіла, што "істотных супярэчанняў у справе няма", таму рашэнне папярэдняй інстанцыі застаецца без зменаў.

Сітуацыю для Еўрарадыё пракаментаваў праваабаронца Раман Кісляк.

Кісляк: "На жаль, на суды аказваюць ціск, каб не праводзіць належным чынам расследаванне і разбіральніцтва абставінаў. У судзе Ленінскага раёну Брэста не былі даследаваныя самі словы, іх змест, ці былі яны нецэнзурнымі... Усё гэта паказвае, што суд у нас не з'яўляецца незалежным. Довады ў абласным судзе пра тое, што гэтыя пытанні не даследаваныя, таксама ні да чога не прывялі".

Рашэнне абласнога суда Скрабец будзе абскарджваць у Вярхоўным судзе. Таксама ён будзе намагацца прыцягнуць да

адказнасці за ілжэсведчанні трох чалавек, якія агаварылі журналіста на судзе. Два з іх — супрацоўнікі АМАПу, якія былі сведкамі, а трэці — пацярпелы, якога Скрабец нібыта абразіў на вуліцы. Са слоў журналіста, апошняга ён упершыню пабачыў толькі ў зале суда.

http://euroradio.fm/brescki-ablasny-sud-ne-zadavoliu-skargu-nezalezhnaga-zhurnalista

## Людміла Дзенісенка: Адказныя структуры проста цягнуць час

Адказ з пракуратуры горада Берасця атрымала былы кандыдат у дэпутаты ў мясцовыя Саветы Людміла Дзенісенка. Зварот быў накіраваны з патрабаваннем прадаставіць спіс выбаршчыкаў, якія прагаласавалі на даму падчас выбарчай кампаніі-2014. Актывістка накіроўвала запыты ў абласную і гарадскую тэрытарыяльныя камісіі, аднак адказу так і не атрымала.

Палітык распавяла пра тое, якім чынам адрэагавала пракуратура на яе апошні зварот:

- Вось бачаце з пракуратуры напісана: артыкул 49 Выбарчага кодэкса, па гэтым артыкуле не прадугледжана абавязковае паведамленне камісіямі і дзяржаўнымі органамі аб выніках разгляду зваротаў аб парушэнні заканадаўства. То бок пракуратура не знайшла ніякіх парушэнняў з боку камісіі, аднак яна паведаміла мяне, што калі я хачу пазнаёміцца са спісамі, то ў гэтым часам яны захоўваюцца ў мясцовых саветаў, куды я павінна звярнуцца.

Відавочна, што адказныя структуры проста цягнуць час. Па закону магу азнаёміцца са спісамі выбаршчыкаў толькі цягам паўгода, пасля чаго яны будуць знішчаныя, - падвяла рысу актывістка.

http://www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=24468#.U3ukG3IvAlV

## Пікет у абарону правоў дзяцей прайшоў у Берасці

Яго ініцыятарам выступілі прадстаўнікі прафсаюзаў радыёэлектроннай прамысловамі сумесна з партыя левых “Справядлівы свет” і іншымі прадстаўнікамі дэмакратычнай супольнасці. Мерапрыемства прайшло ў дазволеным уладамі месцы - парку воінаў-інтэрнацыяналістаў і сабраў 15 удзельнікаў.

Адная з галоўных арганізатарак пікету, старшыня рэгіянальнага




аддзялення прафсаюзаў РЭП Зінаіда Міхнюк упэўненая, што ў дазволе на мерапрыемства ёсць як плюсы, так і мінусы:

- Гэта ўжо хоць маленькая, але перамога, што нам дазволілі гэты пікет. Ён не ў цэнтры горада, і не ў гарадскім парку - гэта ўжо іншае пытанне.

Старшыня Берасцейскай гарадской арганізацыі партыі левых “Справядлівы свет” Людміла Дзенісенка перакананая, што такія мерапрыемствы дапамагаюць актуалізаваць сацыяльна вострыя пытанні, пра якія замоўчваецца:

- Мы раздаем шарыкі, віншуем людзей са святам. Сёння ўсё ж дзень абароны дзяцей, і мы просім у нашай дзяржавы: больш дзіцячых садкоў, болей школ, болей дашкольных установаў, павялічыць заробак педагогам. І тады мы не будзем праводзіць пікетаў, мы будзем разумець, што дзяржава клапоціцца.

Падчасе правядзення пікету таксама былі раздадзеныя інфармацыйныя друкаваныя матэрыялы. Перашкодоў з боку супрацоўнікаў праваахоўных ворганаў не было.

http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=24765#.U4zc8nIvCK5

## Бяроза: хто выклікаў праваабаронцаў у міліцыю?

Пры знаёмстве з матэрыяламі судовай справы па адозве дазволу райвыканкамам на пікет на 25 сакавіка праваабаронца Сяржук

Русецкі не знайшоў там запыту суддзі Алены Нямковай ў міліцыю на прадмет апытання яго і Тамары Шчапёткінай па гэтай справе. Не знайшоў і тлумачэнняў, якія яны давалі ў міліцыі ў суботу 26 красавіка ў 12 гадзін дня, куды яны былі выкліканы напярэдадні павесткамі. Пры гэтым Шчапёткінай даставілі павестку нават пасля 22 гадзін вечара 25 красавіка.

Паўстае пытанне: а ці быў выклік ад суддзі, ці гэта ёю прыкрываліся супрацоўнікі міліцыі, каб праваабаронцамне патрапілі ў Мінск на Чарнобыльскі шлях? Сяргей Русецкі і Тамара Шчапёткіна напісалі старшыні суда Бярозаўскага раёна, каб з гэтым разбіраўся зараз ён.

http://spring96.org/be/news/71384

## Бярозаўскі суд: Пратэст супраць акупацыі Украіны - распальванне варожасці

Бярозаўскія праваабаронцы і грамадскія актывісты не пагадзіліся з рашэннем суда Бярозаўскага раёну, які адмовіў ім у задавальненні скаргі.

Актывісты падавалі скаргу на тое, што яшчэ 25-га сакавіка ім не дазволілі правесці пікет супраць уводу расейскіх войскаў на тэрыторыю Украіны.

Паводле суду, гэта распальванне нацыянальнай варожасці, - кажа адзін з заяўнікаў Сяржук Русецкі:

- Суддзя палічыла тое, што прадстаўнік райвыканкама сказаў, што выказванне пратэсту супраць увядзення Расейскай Федэрацыяй сваіх войскаў на тэрыторыю незалежнай Украіны - гэта паслужыць распальванню нацыянальнай варожасці паміж грамадзянамі. Таму яны забаранілі пікет. Безумоўна, што ў суддзі стаяла задача аформіць рашэнне згодна з пастаўленай мэтай, але па магчымасці так, каб гэта выглядала законна.

Паводле праваабаронцаў, суд вынес палітычна-матываванае рашэнне, паколькі ўзяў пад увагу толькі адзін бок, у тым ліку адмовіў у правядзенні лінгвістычнай экспертызы. Цяпер судовая пастанова абскарджваецца ў Берасцейскім абласным судзе.

http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=24754#.U4tcTnIvCK5

## У Берасці прэзентавалі “ЕўраБеларусь”



У Берасці прэзентавалі “ЕўраБеларусь” і гутарылі пра напісанне праектных заявак. Сустрэча была арганізаваная менскімі гасцямі – прадстаўнікамі адукацыйнага цэнтра ПОСТ. Удзельнікамі мерапрыемства сталі простыя актывісты, сябры грамадскіх арганізацый і палітычных партый. Кіраўнік міжнароднага кансорцыуму “ЕўраБеларусь” Уладзіслаў Вялічка лічыць, што такая сустрэча – першы крок да вялікай працы:

- На гэтай сустрэчы асноўнай мэтай было прапанаваць пэўныя ідэі і распрацоўкі, якія мы маем для нашых калегаў у Берасці, таксама даведацца, чым жывуць сучасныя беларускія грамадскія актывісты з Берасця. Я думаю, што за два дні гэта атрымалася. І мы змаглі, з аднаго боку, задаволіць чаканні, а з іншага боку, сфармаваць новыя. Таму будзем зараз з гэтым разбірацца.

У рамках сустрэчы была абмеркаваная магчымасць супрацы недзяржаўных арганізацый на лакальным узроўні, прэзентаваная мадэль ацэнкі праектаў IMACON, а таксама дадзеныя базавыя веды па напісанні праектных праграм.

http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=24434#.U3ukCHIvAlV

## Дзень памяці генерала Булак-Балаховіча

10 траўня ў Варшаве быў забіты адзін з лідараў збройнага супраціву бальшавікам у Беларусі.

Станіслаў Булак-Балаховіч быў расстраляны нямецкім патрулём



у захопленай фашысцкай Германіяй польскай сталіцы. Месца пахавання нацыянальнага героя Беларусі не вядома.

Станіслаў Булак-Балаховіч, які нарадзіўся 10 лютага 1883 года, служыў у расейскай арміі, дзе атрымаў чын генерала, пасля ўдзельнічаў у барацьбе з бальшавікамі на баку «белых».

У лютым 1920 ён звярнуўся да кіраўніка Польшчы Юзэфа Пілсудскага з просьбай прыняць яго на службу для вайны з савецкай Расеяй. Пасля атрымання згоды Булак-Балаховіч са сваім атрадам прыбыў у Даўгаўпілс, дзе быў урачыста прыняты знакамітым польскім генералам Эдвардам Рыдз-Сміглы.

Адразу ж пасля прыбыцця ён прыступіў да фарміравання сваёй добраахвотніцкай арміі. Да генерала сцякаліся людзі з усіх бакоў. У чэрвені 1920 года дывізія Булак-Балаховіча ўступіла ў баі з бальшавікамі. 30 чэрвеня яна нанесла цяжкую паразу чырвоным часткам у раёне Славечна. 3 ліпеня балахоўцы атакавалі Веледнікі, захапіўшы штаб раскватэраванай там брыгады. Падчас баёў генерал практыкаваў сваю любімую тактыку партызанскага бою.

Пасля заключэння ў 1920 годзе перамір'я паміж Масквой і Варшавай генерал працягнуў наносіць удары з тэрыторыі Польшчы па бальшавіцкім войскам у Беларусі. Савецкі ўрад накіраваў пратэст, і польскі Сейм запатрабаваў раззбраення яго войска.

Булак-Балаховіч адмовіўся выканаць патрабаванне і перайшоў савецка-польскую мяжу.

План генерала быў просты - падняць сялянскае паўстанне і скінуць савецкую ўладу.

На працягу двух дзён яго войскі занялі тэрыторыю беларускага

Палесся ад мяжы з Польшчай да Петрыкава.

9 лістапада 1920 года кавалерыйская дывізія палкоўніка Сяргея Паўлоўскага разбіла чырвоных пад Раманаўкай. Палкоўнік Мацвееў заняў Скрыгалаў. Пераможны паход балахоўцаў завяршыўся вызваленнем Мазыра 12 лістапада 1920 года.

За некалькі дзён да гэтага на ўрачыстай пабудове сваіх войскаў у Тураве Булак-Балаховіч разгарнуў бел-чырвона-белы сцяг і пакляўся не складаць зброі, пакуль не вызваліць родны край ад савецкіх войскаў. У Мазыры ён абвясціў аб аднаўленні ўлады БНР і роспуску ўрада БССР. 14 лістапада генерала абвясцілі галоўнакамандуючым узброеных сіл незалежнай Беларусі.

Бальшавікі былі вымушаныя перакінуць у нашу краіну - на барацьбу з Булак-Балаховічам і на падаўленне Слуцкага паўстання - часткі з цэнтральнай Расеі. Толькі дзякуючы велізарнай колькаснай перавазе ім удалося дамагчыся пералому на фронце.

У ноч на 18 лістапада Булак-Балаховіч быў вымушаны пакінуць Мазыр. З вялікай цяжкасцю ён здолеў прабіцца да польскай мяжы. У Польшчы яго войскі былі інтэрнаваныя і раззброеныя. Асобныя атрады працягнулі ўзброены супраціў на тэрыторыі Беларусі.

Савецкі ўрад запатрабаваў ад Пілсудскага выдачы генерала Балаховіча, аднак ён адмовіўся зрабіць гэта.

Пасля акупацыі Польшчы ў 1939 годзе нямецкімі войскамі Булак-Балаховіч спрабаваў арганізаваць партызанскі атрад дзеля барацьбы з акупантамі.

Ён быў забіты ў Варшаве 10 траўня 1940 года нямецкім патрулём.

Месца пахавання героя барацьбы за незалежнасць Беларусі невядомае.

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны
«Мяжа»